# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№4 (227)

красавік 2021

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

**У НУМАРЫ:**



**САЛІ-ДАР-НАСЦЬ**







# СЯБРА РАДЫ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" ПАВЕЛ ЛЯХНОВІЧ АТРЫМАЎ МІЖНАРОДНУЮ ЛІТАРАТУРНУЮ ЎЗНАГАРОДУ

Прэмію "Світ Пограниччя" спадар Павел атрымаў "за непераўзыдзеныя пераклады на беларускую мову і папулярызацыю сучаснай літаратуры суседніх з Беларуссю народаў".

Са слоў самога перакладчыка, ніякіх адмысловых намаганняў, каб атрымаць прэмію, ён не рабіў, узнагарода сталася для яго поўным сюрпрызам. Нават пра тое, што цяпер ён лаўрэат "Світу Пограниччя", Павел Ляхновіч даведаўся ад польскага калегі Войцеха Пэсткі, кнігу якога "Да сустрэчы ў пекле" таксама пераклаў быў на беларускую мову.

Міжнародная літаратурна-мастацкая прэмія "Світ Пограниччя" была заснавана ва Украіне ў 2015 годзе. Ад 2018 года заснавальнікамі прэміі выступаюць Міжнародная літаратурна-мастацкая акадэмія Украіны і грамадская арганізацыя "Чумацький віз". Прэміяй адзначаюць украінскіх і замежных пісьменнікаў, навукоўцаў, перакладчыкаў, мастакоў і людзей, якія спрыяюць развіццю нацыянальных мастацтваў і ўзаемнаму абмену культурнымі каштоўнасцямі, робячы іх агульначалавечым здабыткам.

Усяго на перакладчыцкім рахунку Паўла Ляхновіча дзясяткі твораў. Ён пераклаў на рускую мову ўвесь цыкл раманаў Людмілы Рублеўскай аб прыгодах Пранціша Вырвіча, з польскай на беларускую – 70 апавяданняў празаіка Збігнева Уладзімежа Фрончка, кнігу Альдона Дзенцёла "На літаратурнай Любельшчыне", раман "З Богам у Расеі" Вальтара Цішка ды іншыя творы. Акрамя гэтага, спадар Павел часта выступае аўтарам уласных апавяданняў і аповесцяў, мае больш за пяць выдадзеных кніг.

Ад імя Згуртавання "Бацькаўшчына" шчыра віншуем спадара Паўла Ляхновіча з прэміяй і зычым натхнення, плёну, новых перамог і мастацкіх вяршыняў!

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома

навіны "Будзьма беларусамі!"

# ЯК СТАЦЬ ГРАМАДЗЯНІНАМ PFIZER

Пісьменнік Віктар Марціновіч разважае пра тое, якім будзе свет у бліжэйшай будучыні.



На вялікі жаль, з каранавірусам збыліся мае самыя сумныя прадчуванні. Як я і пісаў у сакавіку мінулага года, скончыцца ўсё зусім не так, як мы ўяўлялі.

Выраз "посткавідны свет" імкліва страчвае сэнс: зараза мутуе, і сітуацыя ў Індыі дэманструе, што з гэтай пошасцю мы атрымалі нешта больш працяглае за іспанку, якая калашмаціла Зямлю два гады. Тут ёсць усе шансы пабачыць не "посткавідны свет", а "транскавідны свет" – планету, дзе няспынныя мадыфікацыі віруса будуць рабіць усё новыя і новыя вакцыны нядзейснымі.

Але самая сумная для мяне навіна – агучаная прапанова Еўракамісіі, якая, здавалася б, гучыць шыкоўна і ліберальна. Чыноўнікі прыдумалі "аслабіць абмежаванні для ўезду ў ЕС для замежнікаў, якія прышчапіліся".

І ўсё б добра, але ў пералік прэпаратаў, прыняўшы якія, можна скарыстацца раскошай Шэнгенскага пагаднення, увайшлі Astra Zeneca, Pfizer і Johnson and Johnson. Даступнага нам, беларусам, "Спутніка" сярод "уязных" у ЕС вакцын няма.

І гэта ставіць пытанне пра тое, як цяпер выглядаюць межы.

Наяўнасць візы ў дзейным пашпарце ўжо год як не гарантуе здольнасць перакрочыць праз памежнікаў.

Да палітычнай мапы Зямлі дадалася кавідная мапа.

І мы бачым, як гэтыя кавідныя межы падмінаюць пад сябе колішнія палітычныя межы. Логіка надзвычайшчыны заўсёды пажырае "грамадзянскую" логіку.

Карта меркаваных вандровак і планы на адпачынак цяпер вызначаюцца не толькі тым, куды пушчаюць, але і тым, вярнуўшыся адкуль, не трэба сядзець два тыдні ў самаізаляцыі.

Дык хтосьці дагэтуль верыць у працоўны стан Шэнгенскага пагаднення? Вы можаце патлумачыць, што дакладна яно значыць?

Свет мае ўсе шансы быць падзеленым новай, кавіднай, геапалітыкай.

Праз хуткабежныя расклады, выкліканыя сяброўствам сістэм, хутка беларусу будзе нашмат прасцей з'ездзіць у Кітай, чым у Грэцыю. Так, яшчэ застаюцца краіны-аптымісты кшталту Албаніі, якія спрабуюць быць па-за гэтым падзелам і на той глебе па-хуткаму зарабіць на турыстах з краін альянсу "Спутнік" тую-сюю капейчыну.

Але можаце быць упэўненыя: хутка яны выправяцца, бо песіміст – гэта суб'ект, што сутыкнуўся з наступствамі свайго колішняга аптымізму.

Вангую новы біпалярны свет: у ім ёсць краіны "Спутнік" (Расія, Казахстан, Арменія, Беларусь, Кітай і г.д. – глядзі спіс візітаў Лаўрова за апошнія 5 гадоў). І краіны "Pfizer". Краіны "Спутніка" будуць прызнаваць вакцыны адна адной, людзі, прышчэпленыя кітайскай Vero Cell, здолеюць пасля прад'яўлення кавіднага пашпарта вольна шпацыраваць па Мінску. А ў былым Шэнгене такіх людзей будуць замыкаць у каранцін такой працягласці, што ўсякае жаданне наведваць Вену ці Берлін знікне.




І наадварот – бо ў альянсе "Спутнік" любяць выраз "контрсанкцыі".

Мы ўсе павольна ператвараемся ў грамадзян СССР, "Союза "Спутниковых" Социалистических Республик".

Адно што СССР гэтым разам цягнецца да кітайскай правінцыі Гуандун. Прычым робіцца гэта моўчкі, без асаблівай помпы, без гучных доўгатэрміновых забаронаў, якія абавязкова б выклікалі скандал. А праз стварэнне і пагаршэнне дыскамфорту для тых, каму трэба рухацца.

Навошта ў гэтым раскладзе патрэбныя амбасады, консульствы і візавыя цэнтры – гэтаксама як і грамадзянскія пашпарты – штодня будзе рабіцца ўсё менш відавочным. У ЗША асноўнае ID – правы кіроўцы, у Кітаі – інтэграваная з тваім сацыяльным рэйтынгам крэдытная карта.

Дык вось, рыхтуйцеся да таго, што асноўным пасведчаннем для зямляніна зробіцца даведка з паліклінікі, перакладзеная на англійскую мову. І што вы будзеце марыць пра дозу Pfizer не менш, чым раней марылі пра двухгадовы шэнген. І мне цікава, ці будзе "халодная вайна" вакцын і ўзаемнае непрызнанне тых, хто прывіўся абедзвюма вырабамі.

Пры тым, што любая новая мадыфікацыя – напрыклад распаўсюд "індыйскага штаму 2.0" – вокамгненна будзе абнуляць усе строгія захады. Мы, нібы Аліса ў Краіне цудаў, мусім бегчы на поўную моц, каб проста заставацца на месцы.

За апошнія месяцы мы, беларусы, прызвычаіліся да выразу "часам не да законаў". Але карона навучыла гэтаму падыходу і еўрапейцаў – бо няма такога пункту ў Шэнгенскім пагадненні, які б дазваляў уводзіць сегрэгацыю грамадзян па прынцыпе атрыманай вакцыны.

Дадам да таго, што далёкія наступствы ўсіх гэтых вакцын для мяне асабіста невідавочныя. Хаця я зусім не медык. Але чытаў да халеры фантастычных кніг і бачыў дастаткова серыялаў, якія распачыналіся з усеагульнага прышчаплення лекамі, якія не тэставаліся цягам хаця б дзесяцігоддзя.

Чаго ні адна з гэтых кніг не здолела прадбачыць – гэта свету, у якім прэпараты будуць асновай раздзялення на новыя краіны і альянсы.

**Віктар Марціновіч, budzma.by**

**навіны “Будзьма беларусамі!”**

# ЧАРНОБЫЛЬ. 35 ГАДОЎ У ЦЕНІ ПАЛІТЫКІ

Журналіст Алесь Кіркевіч разважае пра Чарнобыльскую трагедыю і параўноўвае яе з каранавіруснай пандэміяй.

Ёсць вядомая цытата Святланы Алексіевіч з “Чарнобыльскай малітвы”: *“Выбухнуў не рэактар, а ўся папярэдняя сістэма каштоўнасцяў”*.

Савецкая сістэма сапраўды падобная да ЧАЭС.

Нешта тытанічнае, нібы суперсучаснае, пралічанае ў тэорыі, пакліканае для добрых мэтаў (энергію ж дае!), праз чалавечы фактар стала бядой, брамай пекла на зямлі.

Сам рэактар нікуды не знік, проста ператварыўся ў вязні маўзалей пад бетонным саркафагам. Лезці туды нельга, але што, калі вельмі хочацца? Людзі – такія людзі!

Таксічныя выкіды сістэмы, якая выбухнула праз пяць гадоў пасля Чарнобыля, выпалі шмат дзе. Найбольш зачапілі Беларусь, Украіну і Расію.

Наступствы катастрофы будуць адчувацца шматлікімі будучымі пакаленнямі. Мутацыі, хваробы, адхіленні...

Можна і далей працягваць паралелі СССР – ЧАЭС. Але давайце пра Чарнобыль.

### “Бітва за Чарнобыль”

Нагадаем, што яшчэ ў 1980-я тэма Чарнобыля стала адным з трыгераў, паскаральнікаў распаду СССР. Дэмакратычныя рухі літаральна паднялі яе на сцяг, расцягнулі на лозунгі: “Улада замоўчвае”, “Ахвяр нашмат больш”, “А хто насамрэч вінаваты?”.



СССР знік, але кейс Чарнобыля ў Беларусі не знік з палітычнага поля. Пакуль кіраўніцтва расказвала народу, што жыць, гадаваць дзяцей, сеяць жыта і даіць кароў можна ў забруджанай зоне, апазіцыя штогод ладзіла “Чарнобыльскі шлях”.

З часам ён увайшоў у пантэон вулічных акцый разам з “Дзядамі” і 25 сакавіка. Але, як і ў кожнай рытуальнай з’яве, форма перамагла сэнс. ЧШ стаў менш “чарнобыльскім” і больш “шляхам”...

Улады прынялі выклік. Пасыл такі: калі апазіцыя “спекулюе” на тэме, то сістэма клапоціцца пра людзей. А калі не пра людзей, то хаця б пра высадку лесу ў забруджанай зоне. “...Ты зразумей, мы сыдзем, ніхто тут нічога рабіць не будзе!” – адзначыў днямі кіраўнік дзяржавы падчас візіту ў Палескі радыяцыйна-экалагічны заказнік.

Відавочна, што “Бітва за Чарнобыль” будзе працягвацца столькі ж, колькі і грамадскае супрацьстаянне ўнутры краіны.

### Чарнобыль-86 і COVID-19

Нічога не нагадвае? Дакладна як у сітуацыі з каранавірусам. Адно што чарнобыльская эпапея расцягнулася на доўгія дзесяцігоддзі, а тут усё свежае, нядаўна перажытае.

Вось асноўныя этапы:

1. Каранавірус дабраўся да Беларусі.
2. Людзі пачалі хварэць. Улада кажа: “Віруса няма”.
3. Каранавірус робіцца трыгерам незадаволенасці шырокіх мас. Пытанне становіцца палітычным.
4. За справу бяруцца актывісты, журналісты, недзяржаўныя арганізацыі, палітыкі.
5. З вялікім спазненнем улады ўваходзяць у справу, кіраўнік дзяржавы ездзіць па лякарнях, узнагароджвае дактароў і г. д.
6. Сістэма і грамадства ўваходзяць у зону турбулентнасці, не звязаную з COVID-19. Усім не да таго. Як не да Чарнобыля было ў 1991-м.

Цікава, вядома, як каранавірусная тэма будзе выглядаць праз 35 гадоў. Магчыма, ніяк. Кароткім абзацам у Вікіпедыі. Шмат чаго можа адбыцца, а час бяжыць вельмі хутка. Але сэнс той жа самы.

### Калі ў грамадстве ўсё ў парадку, то і катастрофы праходзяць па-іншаму

Магчыма, ёсць нейкая сувязь паміж пераломнымі эпохамі і такімі катастрофамі. Неўраджай і голад на досвітку сталіншчыны. Чарнобыль на сконе СССР. Цяпер вось каранавірус... Нібы нешта ў прыродзе адчувае ўсе імпульсы і супярэчнасці ў чалавечым асяроддзі і выбухае.

А магчыма, гэта супадзенні. І сэнс у тым, што калі ў грамадстве ўсё ў парадку, то і катастрофы праходзяць па-іншаму.

Няма сэнсу нешта замоўчваць.

Няма сэнсу шукаць вінаватых.

Няма сэнсу супрацьпастаўляць дзяржаўную, валанцёрскую ці замежную дапамогу.

Спадзяюся, мы ўсё ж дажывём да часу, калі Чарнобыль будзе трактавацца выключна як тэхнагенная катастрофа. Каранавірус – як інфекцыя. Кожная чарговая бяда – як агульная. Адна на ўсіх. І нікому не будзе розніцы, хто і на якія грошы вязе ў правінцыйную лякарню маскі або градуснікі.

**Алесь Кіркевіч, budzma.by**

**навіны**

# МІНСКІ ГАРВЫКАНКАМ АДМОВІЎСЯ АБМЯРКОЎВАЦЬ ПЕРАЙМЕНАВАННЕ ВУЛІЦЫ КАРЛА МАРКСА Ў ГОНАР ВАСІЛЯ БЫКАВА

Ініцыятары таксама прапаноўвалі абмеркаваць магчымасць вярнуць гістарычную назву вуліцы.

Каля тысячы грамадзян звярнуліся ў электроннай петыцыі да мінскіх уладаў з просьбай арганізаваць грамадскае абмеркаванне аб вяртанні цяперашняй вуліцы Карла Маркса яе гістарычнай назвы Падгорная або перайменавання яе ў гонар Васіля Быкава.

Пасля абмеркавання можна было б правесці пасяджэнне Камісіі па найменні вуліц, што і было прапанавана ўладам.

Вуліца Карла Маркса раней называлася Падгорнай і вуліцай Новы Рынак.

Васіль Быкаў (1924–2003) – беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР 9-11 скліканняў, удзельнік вайны, аўтар “Альпійскай балады”, “Трэцяй ракеты”, аповесці “Мёртвым не баліць” і многіх іншых аднесеных да класікі твораў.

“Перайменаванне вуліцы Карла Маркса ў вуліцу імя Васіля Быкава ўвекавечыць памяць пра чалавека, якім ганарыцца краіна, народнага пісьменніка з сусветнай вядомасцю, чый вялікі ўклад у культуру сучаснай Беларусі не можа застацца без памяці на вуліцах сталіцы”, – напісалі аўтары звароту.

9 красавіка намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Арцём Цуран падпісаў ліст у адказ на петыцыю.

У ім ён адмовіў нават у арганізацыі такога грамадскага абмеркавання, паколькі перайменаванне, на думку ўладаў, можа “стварыць значныя нязручнасці грамадзянам і запатрабуе дадатковых фінансавых затрат”.




**svaboda.org**

навіны

# “БЕЛЫЯ ДНІ МІНСКА”

Ураджэнец Вілейкі, галоўны дырыжор аркестра Мюнхенскага ўніверсітэта Віталь Алексяёнак на замову нямецкага выдавецтва S. Fischer Verlag напісаў кнігу пра мірны беларускі пратэст, удзельнікам якога ён быў у жніўні і верасні.

Музыка тлумачыць, што здараецца, калі “аркестр не прымае дырыжора, які аўтарытарна кіруе больш за 26 гадоў”, расказвае пра свой самы шчаслівы і самы трагічны дзень у 2020-м.

### Як нямецкае выдавецтва замовіла музыку напісаць кнігу пра беларускія пратэсты

– Летась у траўні-чэрвені 2020 года я яшчэ займаўся музыкай, наколькі гэта было мажліва ў пандэмію, але мяне моцна хвалявалі падзеі ў Беларусі. Так атрымалася, што я стаў адным з актывістаў беларускай дыяспары ў Германіі, арганізатарам дэманстрацый у Берліне. Мы мелі шмат кантактаў з прэсай, з нямецкімі палітыкамі, дэпутатамі Бундэстага і Еўрапарламента. Праз некаторы час я зразумеў, што больш для сваёй краіны ў Германіі я не змагу зрабіць, таму 4 жніўня паляцеў у Беларусь і застаўся там на паўтара месяца.

Усе падзеі я бачыў на свае вочы. Мяне ледзь не затрымалі 10 жніўня. І на пачатку восені я атрымаў прапанову напісаць кнігу пра беларускія падзеі ад вельмі вядомага, буйнога нямецкага выдавецтва S.Fischer у Франкфурце. Адразу я нават не зразумеў, чаго ад мяне хочуць, бо я найперш музыка, а не пісьменнік, не аўтар. Я быў у Мінску, усё вакол бурліла. Мы скантакталіся, і я запытаў: а чаму вы хочаце, каб я кнігу напісаў, можа, я пісаць не ўмею? На той момант я напісаў некалькі артыкулаў і даваў шмат інтэрв’ю ў Германіі на нямецкай мове. Мне адказалі: “Мы ведаем, што вы можаце, і мы хочам, каб пра Беларусь дазналіся”.

Шчыра кажучы, не верыў, што буду пісаць кнігу, бо гэта не мая прафесія. Але падумаў, вырашыў паспрабаваць, і ў мяне атрымалася.

### Для якога чытача кніга пра беларускую рэвалюцыю

– Спадзяюся, што найперш яна будзе цікавая нямецкаму чытачу, нямецкамоўнаму чытачу, які не ведае і не разумее нашага кантэксту, які пра Беларусь даведаўся толькі ў жніўні і ведае павярхоўна толькі тое, што адбыўся гвалт і нейкія праблемы з выбарамі. У кнізе я шмат апісаў таго, што нам і так зразумела – прэзідэнцкую кампанію; тое, што адбывалася ў пандэмію; пра вельмі бачную мяжу паміж беларускім грамадствам і рэжымам, якія ўсё больш ідуць рознымі шляхамі.

Мая гісторыя там таксама ёсць – як вырас у Беларусі, як не адразу пачаў разумець, што адбываецца ў краіне, пра падзеі 2010 года пісаў (я быў на Плошчы), чаму потым з’ехаў з краіны. У кнізе ёсць і гісторыі людзей, якія перажылі гвалт у сярэдзіне жніўня. Я шмат збіраў матэрыялу для сябе яшчэ да таго, як прыйшла прапанова пісаць кнігу. Думаю, што немцам будзе цікава ўсё, а беларусам будзе цікава пра гэта яшчэ раз даведацца, бо мы шмат што забываем. Калі пісаў кнігу, мне было вельмі важна яшчэ раз гэта ўсё перажыць.

### Пра дзённікі як дакумент часу

– Калісьці я вёў дзённік. Пісаў дзённік у пандэмію. Калі прыехаў у Беларусь, перастаў пісаць. Калі перажываеш нешта настолькі інтэнсіўнае, цяжка сесці і запісаць гэта. У той момант немагчыма было асэнсаваць і зафіксаваць усё, але ў канцы жніўня я зноў пачаў весці дзённік, запісваць не толькі тое, што перажываю сёння, але і падзеі, якія адбыліся на пачатку жніўня, бо толькі пачаў іх асэнсоўваць. Гэта мне вельмі дапамагло пры напісанні кнігі. Падзагаловак кнігі – “Наша мара пра свабодную Беларусь”. Мне рэдактары спачатку прапанавалі: “Мая мара пра свабодную Беларусь”, але я адразу сказаў, што гэта немагчыма. Вельмі важна, што гэта не мая, а наша мара.

### Пра самы шчаслівы дзень у Мінску ў 2020 годзе

– Гэта 13 жніўня. 12 жніўня я быў на жаночай акцыі на Камароўцы, і тады пачаліся нашыя белыя дні, нашы белыя пратэсты. Беларусь па-нямецку раней называлася Weißrussland, Белая Расія, і ў немцаў ёсць такая асацыяцыя – белыя дні, Беларусь, белыя пратэсты... Адзін з самых шчаслівых дзён быў 13 жніўня, калі я першы раз выйшаў з плакатам на праспект каля ГУМа. Перад гэтым у дварах дзве гадзіны маляваў плакат. Побач стаялі жанчыны, якія слухалі прапагандысцкае радыё, я думаў, што яны могуць мяне закласці, што яны “ябацькі”, як мы сталі пазней называць.




Гэта быў толькі пачатак, масавых акцый не было, нічога не было зразумела, толькі інтэрнэт уключылі. І я выйшаў на праспект адзін і падняў плакат. Гэтыя жанчыны да мяне падышлі і сказалі: “Мы ўсё ведаем, калі міліцыя будзе ехаць, мы табе адразу знак дамо, і ўцякай”. І я зразумеў, што яны за нас ужо. Парадыгма змянілася. Спачатку я стаяў адзін з плакатам, а праз 30 хвілін вакол мяне была ўжо невялікая дэманстрацыя. Я сустракаў сяброў, якіх не бачыў 10 гадоў... Гэта быў дзень, калі я атрымаў столькі салідарнасці, і я сам столькі аддаваў. Калі спытаюць пра мой самы шчаслівы дзень у жыцці, я скажу – 13 жніўня.

### Пра самы трагічны дзень

– Самы нешчаслівы дзень – 15 жніўня, калі пахавалі Аляксандра Тарайкоўскага. Мы былі на Пушкінскай. Ужо пачаліся нашыя мастацкія, музычныя акцыі, і мы туды паехалі з невялічкім хорам, думалі спяваць нейкую паніхідку, але калі прыехалі, пабачылі там тысячы людзей... Была цяжкая атмасфера. Для сотняў тысяч беларусаў 12–13 лістапада быў самым няшчасным днём, калі забілі Рамана Бандарэнку. Я быў тады ў Берліне. Нас было некалькі беларусаў у кватэры, і мы проста плакалі...

### Аркестр як грамадства

– Калі я прыехаў у Мінск у жніўні, не чакаў, што столькі мастацтва будзе на вуліцах. Мне здаецца, што мы занадта доўгі час як аркестр, як грамадства гралі з адным і тым жа дырыжорам. Гэта ўжо немагчыма. Па-другое, ёсць шмат музыкі, для якой не патрэбны дырыжор. Ёсць шмат камернай музыкі, дзе дырыжор будзе толькі перашкаджаць і стрымліваць музыкаў. Мне здаецца, у нашым супрацціве ёсць і тое, і другое. Мы зразумелі, што ёсць шмат іншых дырыжораў у нашым грамадстве. На жаль, яны цяпер не вельмі могуць штосьці зрабіць, таму што ці за кратамі, ці не ў Беларусі. Але мы даведаліся, што ёсць добрыя дырыжоры.

У Беларусі і Расіі ёсць своеасаблівая канкурэнцыя (я ведаю, я там жыў калісьці) – не запрашаць дырыжораў, лепшых за сябе, таму што аркестр




Віталь Алексяёнак ля філармоніі ў Мінску

тады зразумее, што ты як дырыжор не вельмі добры. Такое адбываецца і ў Беларусі цяпер – нікому не даваць ніякага шанцу. Але мы як грамадства, як музыкі, зразумелі, што ў нас ёсць столькі кампетэнтных людзей, якія могуць гэта зрабіць, і ім проста не даюць гэтага шанцу. Па-другое, мы як пратэст, як мурашнік, таксама зразумелі, што кожны з нас важны. І на маім плакаце ў мой самы шчаслівы дзень 13 жніўня было напісана: "Мы не маем лідараў, цяпер усё залежыць ад кожнага з нас". І цяпер я гэтай жа думкі прытрымліваюся.

**Што адбываецца, калі музыкі не слухаюць дырыжора, які надакучыў**

– Найперш гэта ўплывае на музыку, яна страчвае якасць. А мы губляем якасць жыцця як грамадства. У аркестры пачынаюцца вельмі моцныя канфлікты, раскол. Частка яшчэ хоча граць з дырыжорам, але другая частка кажа: "Не, нам патрэбны іншы дырыжор, ці нам не патрэбныя ніякія дырыжоры (парламенцкая рэспубліка, напрыклад). І аркестр ужо не можа функцыянаваць, не можа ісці ў адным кірунку. І калі амаль увесь аркестр, 97 %, кажа, што гэты дырыжор нам не патрэбны і гэтая музыка нам не патрэбная, бо гэта не музыка, а какафонія, трэба мяняць гэтага дырыжора. Калі ён яшчэ мае ўладу заставацца і гаварыць самому аркестру, што ён самы галоўны, а яны ўсе нічога не вартыя, то гэта нездаровая атмасфера, якую трэба мяняць як мага хутчэй.

**Што можа зрабіць дыяспара**

– Шмат кірункаў дзейнасці. Мы можам размаўляць з прэсай, з палітыкамі, з сусветным грамадствам. Нашая роля ў тым, каб пра Беларусь не забывалі, каб пра яе гаварылі. Я даю шмат інтэрв'ю, у тым ліку і пра кнігу, і амаль заўсёды кажу: "Думайце пра Беларусь, не забывайце пра яе". Летам я адчуваў, што мы, беларуская дыяспара, як нумар два пасля беларусаў у Беларусі. Як маленькі філіял. Гэта было вельмі адчувальна, калі я прыехаў з Беларусі ў Берлін у верасні і прыйшоў на акцыю дыяспары. Я толькі быў на нашым



svaboda.org (RFE/RL)

стотысячным маршы ў Мінску, а ў Берліне на акцыі было 200 чалавек. Было вельмі важна, што яны там былі, але гэта было толькі 200 чалавек. Летам мы былі філіялам. А цяпер, калі беларусы не могуць выйсці на вуліцы, як раней, мы ў дыяспары можам зрабіць больш, бо мы можам выходзіць і далей прыцягваць увагу свету да Беларусі.

**Пра адну кнопку ў рэжыму і крэатыў грамадства**

– Мы ведаем, што нас вельмі шмат, хоць і не выходзім масава на вуліцы ў Беларусі. Вуліца – гэта не адзінае, што мы можам зрабіць. Наша галоўнае адрозненне ад рэжыму ў тым, што рэжым карыстаецца толькі гвалтам, у яго толькі кнопка "Гвалт" – on/off – і ўсё. А мы вельмі крэатыўныя і міралюбівыя. І гэта не проста клішэ. Гэта сапраўды тое, чаго мы хочам. Крэатыў дапамагае знайсці новыя шляхі. Калі зараз так небяспечна выходзіць на вуліцу, то і не трэба, можа, усім выходзіць. За кратамі столькі людзей, столькі з'ехала. Ёсць шмат іншых шляхоў, і нам трэба шукаць гэтыя шляхі. Не вельмі карэктна параўноўваць сакавік са жніўнем. Сакавік можам параўнаць з вясной 2020-га, калі ўсё толькі пачыналася. І гэтай вясной у нас таксама ёсць нейкае адраджэнне.

**Самая галоўная ідэя кнігі "Белыя дні Мінска"**

– Беларусы неймаверныя, класныя. Я з'ехаў калісьці з Беларусі, бо не верыў, што мы такія. А цяпер я прыехаў і зразумеў, што як я магу жыць у Германіі, калі беларусы – такія людзі, якіх я нідзе не сустракаў ніколі. Нам нельга забываць нашу каштоўнасць. Мы ўжо больш не будзем такімі, як былі раней. Нас гэта змяніла назаўсёды. Як казала Святлана Алексіевіч, гэта перавярнула нас...

**Ганна Соўсь, svaboda.org**

# ПАСОЛ ШВЕЙЦАРЫІ НАВЕДАЎ НАТАЛЛЮ ХЕРШЭ Ў ГОМЕЛЬСКАЙ КАЛОНІІ

Пасол Швейцарыі ў Мінску Клод Альтэрмат наведаў сваю суайчынніцу, ураджэнку Беларусі Наталлю Хершэ, якая адбывае пакаранне ў гомельскай папраўчай калоніі № 4.

Візіт адбыўся 9 красавіка, пішуць naviny.online.

"Нягледзячы на няпростыя ўмовы, справы ў нашай грамадзянкі ідуць добра. Наталля зноў дзякуе ўсім, хто падтрымлівае яе тут і ў іншых краінах", – напісаў дыпламат у Твітары.

Каментуючы ў іншым твіце паведамленне швейцарскай місіі ў ЕС аб важнасці развіцця чыгуначнага транспарту для паляпшэння экалагічнай сітуацыі, Альтэрмат адзначыў, што ездзіў у Гомель на суперсучасным ("top modern") цягніку "Штадлер" вытворчасці швейцарскай кампаніі Stadlerrail ў Фаніпалі.

7 снежня 2020 года суд Савецкага раёна Мінска прызнаў Наталлю Хершэ вінаватай у супраціве супрацоўніку міліцыі (ч. 2 арт. 363 КК) і



прыгаварыў да 2,5 года пазбаўлення волі і выплаце 1.000 рублёў пацярпеламу сілавіку. Паводле судовага рашэння, 19 верасня падчас несанкцыянаванай акцыі (жаночага маршу) каля Камароўскага рынку 51-гадовая Хершэ сарвала балаклаву з 22-гадовага сілавіка, "падрапала яму твар, прычыніўшы тым самым цялесныя пашкоджанні". Жанчына сваю віну не прызнала.

Беларускія праваабаронцы лічаць Хершэ палітзняволенай.

Паводле іх інфармацыі, асуджаная два разы абвяшчала галадоўку. У студзені яна адмовілася ад ежы з-за таго, што ёй не перадавалі пошту. Тады яе перавялі ў камеру з лепшымі ўмовамі, туды ж перадалі лісты. У апошні тыдзень лютага і першы тыдзень сакавіка Хершэ галадала з-за таго, што родных не апавясцілі аб яе пераводзе ў гомельскую калонію. Акрамя таго, ёй зноў перасталі перадаваць лісты.

**novychas.by**

навіны

# “СЛОВА “САЛІДАРНАСЦЬ” СТАЛА МАЦЕРНЫМ У РАСІІ”

Актывісты беларускай дыяспары ў Расіі Святлана Мішурава з Масквы і Уладзімір Драгун з Пецярбурга расказваюць пра шматмесячныя акцыі салідарнасці, пра дапамогу рэпрэсаваным у Беларусі праз збор сродкаў, ціск на актывістаў беларускай грамады і выкраданні беларускіх грамадзян у Расіі.



Жаночы марш у Санкт-Пецярбургу 10 кастрычніка 2020

### “Ніколі не была абыякавая да сітуацыі ў Беларусі, але гэтым летам адчула, што народ прачнуўся”

Доктарка Святлана Мішурава жыве ў Маскве каля 20 гадоў. Да гэтага працавала 10 гадоў у рэанімацыі шпіталя хуткай дапамогі ў Мінску. Выйшла замуж за масквіча і пераехала ў сталіцу Расіі. У жніўні 2020-га ўпершыню даведалася, дзе ў Маскве амбасада Беларусі. Святлана кажа, што не магла не выйсці пасля таго, што “ўчынілі з нашымі людзьмі”.

– Знаходзіцца дома і чакаць, што будзе далей, было немагчыма. Малюеш чарговы плакат і ідзеш, сустракаешся са сваімі людзьмі, і так праводзіш увесь вольны ад працы час. Я ніколі не была абыякавая да таго, што адбываецца ў Беларусі, але менавіта гэтым летам я адчула, што народ прачнуўся. Як кажуць, кожны народ заслугоўвае сваю ўладу. Спачатку яго абралі большасцю, у 2010 годзе было зразумела, што людзі пачынаюць прачынацца, а масавасць, вера і салідарнасць гэтым летам упершыню далі мне веру, што могуць адбыцца перамены.

### “Мы ўсё робім, каб падтрымаць беларусаў у Беларусі, каб кожны дзень землякам гаварыць, што яны не адны”

Бізнэсовец Уладзімер Драгун нарадзіўся ў Полацку. У Санкт-Пецярбургу жыве каля 15 гадоў. Ён адзін з найбольш актыўных прадстаўнікоў беларускага зямляцтва Піцера, якое штодня ладзіць разнастайныя акцыі салідарнасці.

– Цяпер не так масава гэта праходзіць, бо ёсць складанасць у камунікацыі з мясцовай уладай і праваахоўнымі органамі. 140 дзён запар беларусы Санкт-Пецярбургу выходзілі да амбасады. Гэта было прынцыповае рашэнне. Мы не збіраліся ўздымаць унутраны расійскі парадак дня. Гэта было наша агульнае гора. Я быў апалітычны да 9 жніўня, напэўна, як мільёны нашых суайчыннікаў, але падзеі жніўня моцна мяне ўзрушылі.

Мы 140 дзён хадзілі да амбасады Беларусі, а потым нам ва ўльтыматыўнай форме сказалі прыходзіць без сцягоў і лозунгаў. У выніку, калі прыйшлі з імі, усіх забралі ў РУУС. Пасля гэтага беларусы сталі збірацца ў месцах, звязаных з Беларуссю – Брэсцкі парк, Бабруйская вуліца, Пінскі завулак, Дзвінская вуліца. Потым пачаліся затрыманні, пасадкі. Пяці беларусам ад 2 да 9 сутак далі. Пасля беларусы сталі крэатывіць... Мы ўсё робім не дзеля таго, каб спаборнічаць з ФСБ ці даказваць нешта мясцовай паліцыі, а дзеля таго, каб падтрымаць беларусаў у Беларусі, каб кожны дзень землякам гаварыць, што яны не адны.

Якая б ні была палітыка “перагарнуць старонку”, нельга, каб беларусы забывалі, асабліва сем’і пацярпелых, сем’і Сашы Тарайкоўскага, Аляксандра Віхора, Сашы Будніцкага. Важна, каб дачка Мікіты Крыўцова ведала, што мы за яе змагаемся. Мы не хацелі, каб да такога дайшло. Не беларусы рэжыму абвясцілі вайну, а рэжым – беларусам.

### “1 лютага нам сказалі, што ля амбасады больш мы стаяць не будзем”

Святлана Мішурава згадвае, як летам і ўвосень беларусы масава стаялі ля амбасады сваёй краіны ў Маскве са сцягамі і плакатамі.

– Нас было шмат, спявалі песні, да нас часта прыязджала Анжаліка Агурбаш, мы разам спявалі. Прыходзілі расійскія журналісты, нас падтрымлівалі людзі. Было прыгожа, па-сапраўднаму стаяў ланцуг салідарнасці. А 1 лютага нам сказалі, што мы тут больш стаяць не будзем. І я вырашыла, паколькі ўсё ж маю абарону – расійскі пашпарт, зрабіць адзіночны пікет. Я прыйшла адна з добрым плакатам – “Мир, свет, Беларусь”, да мяне падышлі 8 паліцыянтаў, машыны вакол ездзілі... І на заявы “грамадзянам замежнай дзяржавы...” я кожны раз адказвала, што я расіянка, і паказвала пашпарт. Пасля доўгіх сазвонаў мне сказалі, што ўсё роўна я тут стаяць не буду...

З таго часу спакою не давалі. Нас вывозілі, але мы ўсё роўна прыходзілі без сцягоў і плакатаў у вопратцы нацыянальных колераў. Даходзіла да ідыятызму, як у Беларусі, калі дзяўчыне казалі, што ў яе сцяг у касе, а яна запляла белую і чырвоную стужку ў касу. Да мяне чапляліся за тое, што ў мяне на грудзях было напісана, што Беларусь жыве. “Няўжо вам дрэнна ад таго, што Беларусь жыве?” – пыталася. Кафка адпачывае, дыялогі былі на мяжы фантасмагорыі. Так было разоў пяць. Асабіста я тройчы ўжо была ў РУУС. Трымалі некалькі гадзін для прафілактычнай гутаркі, каб да 22 гадзіны не паспела трапіць да амбасады, і адпускалі. Аднойчы проста спыніўся аўтазак, выскачылі 12 чалавек, нічога не кажучы, запіхнулі ў аўтазак і вывезлі.

Святлана Мішурава лічыць, што цяпер у Маскве нават чалавек з расійскім пашпартам ужо не можа адчуваць сябе спакойна.

– Піцерцам ужо так не “шанцуе”, як нам. Як у Беларусі кажуць, добра, што далі 15 сутак, а не 15 гадоў, так мы кажам, што добра, што адвезлі і выпусцілі, а не як у Піцеры – далі суткі. За што? Дзікая сітуацыя, калі слова “салідарнасць” стала мацерным словам у Расіі. Паліцыянты наўпрост кажуць: вы што салідарнасць выказваеце, вы што думку сваю выказваеце? А дзе ў законе напісана, што чалавек не можа мець думкі? І гэты дыялог заканчваецца спрадвечным: “Вы ж разумееце, ёсць указанне, і вас тут не будзе”.

### “Падняліся на Ісакіеўскі сабор і расцягнулі бел-чырвона-белы сцяг”

Уладзіміра Драгуна затрымлівалі ў Санкт-Пецярбургу за ўдзел у беларускіх акцыях салідарнасці, ён трымаў галадоўку за кратамі. Беларусы Санкт-Пецярбурга ладзяць “гаражныя распродажы”. Грошы, заробленыя такім чынам, ужо пайшлі на аплату штрафаў беларусам Санкт-Пецярбурга, а таксама на адваката 16-гадоваму палітвязню Мікіту Залатарову, якому ў Беларусі далі 5 гадоў калоніі за “масавыя беспарадкі”.

– Акрамя Мікіты Залатарова, Андрэя Прылуцкага, мы падтрымліваем і Сяргея Непагоду. Дыяспара скідваецца на перадачы і адваката. Раней мы з Русланам Хазіным падняліся на Ісакіеўскі сабор і расцягнулі наш бел-чырвона-белы сцяг памерам 5 на 2 метры. У выніку адседзелі па двое сутак у РУУС у чаканні суду і заплацілі каля 150 долараў штрафу. Другі раз мяне назвалі арганізатарам акцыі, на якой я не быў...

### “Калі малая дзяўчынка закрычала “Жыве Беларусь”, я ледзь не заплакаў”

Святлана Мішурава звязвае ціск уладаў з тым, што беларускія акцыі салідарнасці вітаюць і расійцы.

– Простыя расійцы, праходзячы побач, крычалі нам “Жыве Беларусь”, праяўлялі салідарнасць і спачуванне. Гэта не магло не выклікаць раздражнення ўладаў. Многія не ведалі, што адбываецца ў Беларусі, бо глядзяць Салаўёва, а не тэлеграм-каналы. І мы ім расказвалі, што адбываецца насамрэч у Беларусі. Нават у РУУС маладыя паліцыянты, калі я расказвала ім, казалі, што ў Расіі такога не можа быць. “Прабачце, а за што вы нас сюды тады прывезлі – за тое, што я стаю ля амбасады ў бела-чырвонай вопратцы?” – пытаюся. Ёсць людзі, якія лічаць нас дагэтуль “майданутымі”, што развальваем і сваю краіну, і Расію. Але такіх людзей усё меней, усё больш людзей разумеюць. Нас падтрымліваюць вядомыя расійскія беларусы Анжаліка Агурбаш, Аляксандра Борціч.

Уладзімір Драгун кажа пра падтрымку беларускіх акцый салідарнасці кіраўніком фракцыі

"Яблоко" ў Заканадаўчым сходзе Расіі Барысам Вішнеўскім.

– Яго называюць сумленнем Пецярбурга. Нас падтрымлівае шмат моладзі. На беларускія акцыі прыходзіў вядомы расійскі блогер Руслан Усачоў. Памятаю, як я стаяў у адзіночным пікеце 14 верасня, калі Лукашэнка паляцеў у Сочы прасіць грошы. Стаю з плакатам, а побач маладая сям'я ідзе. І калі малая дзяўчынка закрычала "Жыве Беларусь", я ледзь не заплакаў.

**"Цяпер у Расіі небяспечна"**

Святлану Мішураву моцна ўзрушыла нядаўняе затрыманне ў Расіі, а фактычна выкраданне, грамадзян Беларусі і ЗША.

– Сітуацыя жахлівая. Калі ў цэнтры Масквы можа выкрасці грамадзяніна ЗША (хай ён і мае яшчэ беларускі пашпарт), калі можна проста выкрасці чалавека і таемна вывезці... Я асабіста тэлефанавала ў шпіталі, шукала Аляксандра Фядуту, бо яму дрэнна магло стаць. Пазней стала зразумела ўсім, што яго выкралі. Гэта сведчыць пра поўнае беззаконне. Усім зразумела, што ліпавыя крымінальныя справы фабрыкуюць у Беларусі. Выкраданне людзей у Маскве ідзе следам за выкраданнем людзей у Беларусі. Цяпер у Расіі небяспечна.

Вельмі страшны год. Жыццё падзялілася на да і пасля. Гэтыя сем месяцаў я параўноўваю з 5 днямі "Норд-Осту". Тады я не магла спакойна жыць, ведаючы, што там сядзяць людзі, абкладзеныя выбухоўкай, і іх могуць знішчыць у любы момант. Так я сябе адчувала 5 дзён, а цяпер так адчуваю сябе 7 месяцаў. Там мае родныя, мае сябры, мае калегі, мая радзіма, і яна ўся замінаваная, уся ў руках вар'яцкай хунты, якая знішчае, знішчае і знішчае. Кожны дзень прачынаешся, чытаеш навіны і думаеш, што гэта не можа быць праўдай.

Як доктар-рэаніматолаг я магу сказаць, што агонія не можа працягвацца вечна. Гледзячы па крайні ідыятызм, што адбываецца на маёй радзіме, я лічу, што гэта агонія. Шакал, які памірае, пачынае кусаць усё вакол. Гэта не можа працягвацца вечна, за агоніяй павінна наступіць наша перамога.

Уладзімір Драгун кажа, што ягонае жыццё падзялілася на да і пасля 9 жніўня.

– Я размаўляў нядаўна тут з адным чалавекам у пагонах: "Іван Іваныч, прыедуць "красаўцы" з Беларусі, ці возьмеце пад сваё крыло? Будуць тут хадзіць, парадкі наводзіць". Ён кажа: "Ні ў якім разе, у мяне баявыя выезды ў Чачню. Той, хто біў бабулек і кашмарыў дзяцей, у маім падраздзяленні не будзе". Я пытаюся: "А калі вам загадаюць узяць 20 чалавек у сваё падраздзяленне?" – "Так, такі варыянт можа быць, але доўга яны не прабудуць", – адказвае.

У мяне ёсць добрая праца, і не ўсе рады, што я па 9 сутак адсутнічаю праз арышт, калі кантракты трэба заключаць ці ў камандзіроўку ляцець. Мая пазіцыя зразумелая – я са сваім народам да канца. Усё, што магу рабіць у рамках прававога поля, буду рабіць дзеля дапамогі беларусам. Зямляцтва жыве. Калі забыцца, то, значыць, усё дарма, і нам дзеці гэтага не даруюць.

**Ганна Соўсь, svaboda.org**

# Гісторык: БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ ЗАМАЦАВАЎСЯ ЯК НАЦЫЯНАЛЬНЫ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Бел-чырвона-белы сцяг падчас Другой сусветнай вайны выкарыстоўваўся пераважна на заходнебеларускіх землях як спадчына даваеннай традыцыі. Бел-чырвона-белы сцяг аб'ядноўвае беларусаў з 1917 года. Многія эпізоды гісторыі сцяга застаюцца малавывучанымі.

На міжнароднай навуковай канферэнцыі "Беларуская ідэнтычнасць: вопыт мінулага і выклікі сучаснасці", якая 1 красавіка была арганізавана кафедрай міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта, з дакладам пра гісторыю бел-чырвона-белага сцяга выступіў доктар гісторыі **Андрэй Катлярчук**, выкладчык дырэктар Цэнтра сучаснай гісторыі Універсітэта Сёдэрторн у Стакгольме (Швецыя).

Андрэй Катлярчук распавёў: *"Улетку 1917 года студэнт Петраградскага горнага інстытута Клаўдзій Дуж-Душэўскі распрацаваў праект нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга. Новы сцяг хутка заваяваў папулярнасць сярод салдат-беларусаў, палітыкаў і шырокага грамадства. Усебеларускі з'езд, які адбыўся ў Мінску ў снежні 1917 года, працаваў пад бел-чырвона-белым сцягам, які тады лічыўся нацыянальным. Падчас з'езда побач з бел-чырвона-белым сцягам вісеў чырвоны сцяг – сімвал рэвалюцыі і Беларускай сацыялістычнай грамады"*.

У 1917–1918 гадах бел-чырвона-белы сцяг стаў адным з сімвалаў беларускага нацыянальнага руху, беларускай дзяржаўнасці, абвешчанай у 1918 годзе ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі.

У даваеннай Польшчы, на тэрыторыі, населенай беларусамі, бел-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваўся рознымі палітычнымі партыямі, арганізацыямі. Сярод іх – Віленская беларуская гімназія, Беларускі студэнцкі саюз пры Віленскім універсітэце Стэфана Баторыя, Таварыства беларускай школы, Беларуская сялянска-работніцкая грамада і, перш за ўсё, партыя "Беларуская хрысціянская дэмакратыя".

*"На той час бел-чырвона-белы сцяг аб'ядноўваў беларусаў Польшчы, Латвіі і Літвы розных палітычных перакананняў, – працягвае Андрэй Катлярчук. – Напрыклад, член Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі паэт Максім Танк напісаў у 1930 годзе верш "Ты чуеш, брат" з наступнымі радкамі:*

*Глядзіце ў будучыню смела!*
*Настаў доўгачаканы час,*
*Пад сцягам бел-чырвона-белым*
*Чакае перамога нас"*.

Андрэй Катлярчук лічыць, што менавіта ў Заходняй Беларусі адбылося замацаванне бел-чырвона-белага сцяга як нацыянальнага. У першыяд нямецкай акупацыі ён выкарыстоўваўся перш за ўсё на заходнебеларускіх землях.

Андрэй Катлярчук адзначыў: *"Сцяг выкарыстоўвала перш за ўсё цывільная адміністрацыя Генеральнай акругі "Беларусь", ядром якой былі заходнебеларускія землі. У 1941–1944 гадах бел-чырвоны сцяг не выкарыстоўваўся на значнай тэрыторыі Беларусі. Насельніцтва Брэста, Пінска, Гродна, Беластока, Мазыра, Магілёва, Бабруйска, Гомеля, Віцебска і іншых гарадоў не маглі ўбачыць гэты сцяг у публічнай прасторы, бо гэтыя гарады і прылеглыя да іх землі знаходзіліся па-за межамі Генеральнай акругі "Беларусь". Сведчанняў аб выкарыстанні бел-чырвона-белага сцяга мясцовай дапаможнай паліцыяй няма. Вядома, што нацыянальны сцяг выкарыстоўваўся Беларускай краёвай абаронай. Аднак гэтае пранацысцкае паліцэйскае фарміраванне было створана ў лютым-чэрвені 1944 года, за лічаныя тыдні да адступлення вермахта з Беларусі і пасля фінальнага этапу Халакосту і генацыду цыганоў"*.

Андрэй Катлярчук прыводзіць прыклады выкарыстання нацыянальных сцягоў на тэрыторыі Беларусі пранямецкімі вайсковымі і іншымі фарміраваннямі: *"Дацкі добраахвотны корпус СС (Frikorps Danmark), вучэбная база якога знаходзілася ў Бабруйску, выкарыстоўваў сцяг Дацкага Каралеўства. Цяперашні Дзяржаўны сцяг РФ, які прысутнічае і на парадах у Дзень Перамогі, выкарыстоўваўся ў 1941 1944 гадах брыгадай СС РОНА ("Русская освободительная народная армия"). Гэтае пранямецкае фарміраванне здзейсніла шэраг злачынстваў супраць мірнага насельніцтва Расіі, Беларусі, Польшчы і Славакіі. У чэрвені 1944 года з дазволу нямецкіх улад рускі сцяг быў узняты на будынку мінскага Дома "Национал-социалистической трудовой партии России". Дэлегаты з'езда "Союза русской молодёжи", які прайшоў у Мінску, сведчылі: "Впервые в столице Белоруссии развевается русский национальный трёхцветный флаг. Его подняла русская молодёжь, собравшаяся на слёт, чтобы выразить свою солидарность с солдатами и офицерами РОА (створанай немцамі "Русской освободительной армии". – Заўв. рэд.)". Але нікому ў сучаснай Даніі ці Расіі не прыходзіць ў галаву абвінаваціць сцяг "у супрацоўніцтве з акупантамі", як гэта робіцца сучаснымі беларускімі ўладамі. І тут Беларусь – выключэнне"*.

Пасля Другой сусветнай вайны бел-чырвона-белы сцяг аб'ядноўваў беларускіх эмігрантаў.

*"Гэты сцяг аб'ядноўваў ветэранаў Другой сусветнай вайны – як салдат БКА, так і тых, хто ваяваў супраць нацыстаў у польскіх часцях брытанскай арміі і французскім руху Супраціўлення"*.

У 1980-я гады бел-чырвона-белы сцяг паціху выходзіў з падполля.

*"У кастрычніку 1984 года два бел-чырвона-белыя сцягі былі вывешаны на будынку Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава. Па справе, распачатай КДБ СССР, праходзілі шэсць навучэнцаў. Два з іх (Сяргей Харэўскі і Юры Макееў) былі выключаны з ВНУ. Беларускі нацыянальны сцяг у той час папулярызаваўся сябрамі першай няўрадавай маладзёжнай арганізацыі "Майстроўня". Сцяг лунаў на першай масавай апазіцыйнай дэманстрацыі ў БССР – падчас шэсця на Дзяды ў Курапаты ў 1988 годзе"*.

Бел-чырвона-белы сцяг у 1991–1995 гадах з'яўляўся Дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь і сімвалізаваў не толькі беларускую дзяржаўнасць, але і нацыянальнае адраджэнне беларусаў. Аднак Аляксандр Лукашэнка ініцыяваў адмену дзяржаўнага статусу беларускага нацыянальнага сцяга, што адбылося ў выніку рэферэндуму ў маі 1995 года.

Андрэй Катлярчук: *"Рэжым Лукашэнкі палітычна маргіналізаваў такія важныя прыкметы этнічнасці, як нацыянальная мова і гісторыя, абгрунтоўваючы свой палітычны праект ідэалізаваным міфам савецкага адзінства. Згадкі сцяга як "нацыяналістычнага" заўсёды суправаджаюцца негатыўнымі эпітэтамі. Дыскурс ачарнення нацыянальнага сцяга зрабіўся мэйнстрымам у часы праўлення Лукашэнкі і дасягнуў свайго апагея пасля падзей жніўня 2020 года"*.

**novychas.by паводле Віктара Корбута, www.polskieradio.pl**

**навіны**

# ВАЖНА ПАМЯТАЦЬ ПРА ТОЕ, КІМ МЫ ЁСЦЬ

Фальклорныя сустрэчы, абходы жыта з караваем і шмат песень. Стваральнік Музея Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік – ужо шмат гадоў вяртае жыхароў Падляшша да сваіх традыцый і культуры. Хоць пандэмія каранавіруса ўплывае на ўсе аспекты нашага жыцця, але не замінае нам памятаць пра тое, кім мы ёсць.



**Радыё Рацыя: Цікава дазнацца, якія ёсць навіны, тым больш у такі перыяд. Вы заўсёды ў гэты час рыхтаваліся да сваіх фестываляў: "Там по маёвуй росі", "Олень по бору ходзіць". Ужо другі год пачынаем жыць у пандэміі, які лёс фестываляў, што плануеце ў гэтым годзе?**

**Дарафей Фіёнік:** Для мяне гэты час благаслаўлёны. Я адпачываю, але не ў сэнсе, што нічога не раблю. Пасля 20 гадоў "катаргі" арганізацыйнай, будаўнічых спраў і іншых, атрымалася зрабіць пэўныя справы, на якія дасюль не было часу. Напрыклад, выданне кніг. Некаторыя рукапісы ляжалі пару гадоў, а тут стала больш часу, і выйшла кніжка "Мяшчанская вёска Відава" Пятра Белаказовіча, кніжка Зоі Сачко для дзяцей "А колісь як было?", выйшлі два нумары "Бельскага гостінца" і нумар "Мельніцкага гостінца", цяпер рыхтуем кнігу Віктара Стахвюка "Подых цемры". Аднавілі мы і працу Школы падляшска-беларускіх культурных і гістарычных традыцый. Ужо мелі пару сустрэч. Ідзе цікавая мастацкая работа, ствараецца "Тэлятыцкая панарама". Пару гадоў супольна з зацікаўленымі асобамі з Польшчы, Беларусі і Расеі рэалізуем важную працу па адраджэнні культурных і гістарычных традыцый тэрыторыі праваслаўнага прыхода Тэлятычы. Зараз паўстае "Тэлятыцкая панарама" Міраслава Здрайкоўскага. Фактычна не захавалася на тэрыторыі Падляшша гістарычных гравюр, такіх, якія маюць, напрыклад, Гародня ці Берасце. На Падляшшы ніякі горад такіх гравюр не мае. Таму мусім ствараць цяпер.

Калі ідзе размова пра час вясны, які надышоў, то ў нас так склалася ўжо некалькі гадоў, што арганізуючы "Там по маёвуй росі", мы сышлі са сцэны на вуліцы, на палі, лугі, на людскія панадворкі. Пачынаем з 1 траўня, бо гэта Вялікая субота. У гэты дзень мы адкрываем пленарную выставу ў Студзіводах – здымкі за 15 год Вячаслава Панасюка, які дакументуе штогод, як збіраюцца людзі асвячаць пасху ля крыжа. А збіраецца да ста чалавек, усе Студзіводы! А 6-га траўня, на Юр'е, абходзім жыта на полі ў Старых Порубах з караваем, з качаннем каравая, спяваннем "агулек", з карагодамі. 9 траўня плануем падобныя карагоды ў вёсцы Тапілец. 8 траўня плануем быць у Махнатым, абходзіць жыта на полі. Думаю, што такое веснавое ажыўленне менавіта песнямі, абрадамі, як паказвае гэтая сітуацыя, універсальнае. І працягваецца пастаянная праца нашых калектываў – гэта "Жэмэрва", "Жэўжыкі" і "Осочнікі". І гэта ўсё студыі фальклору. І мы можам выступаць, а можам і не выступаць. Бо мы даследуем фальклор, расшыфроўваем запісы, апрацоўваем іх, самі сабе ствараем нагоды, каб паспяваць, выйсці на прыроду, на поле на Юр'е, не чакаем, калі нас хтосьці запросіць на сцэну. Для нас важна, што мы выхоўваем дзяцей, моладзь, што маем патэнцыял запісаных традыцый: песень, абрадаў, танцаў, музыкі інструментальнай, што можам камусьці гэта перадаць і навучыць.

**Яна Запольская, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# МАСКВА САРВАЛА ДРУКАВАНЫ ВЫПУСК "НАРОДНАЙ ВОЛІ"

Чакалася, што ад 2 красавіка аднавіцца выданне незалежнай газеты "Народная Воля" ў паліграфічным варыянце. Рэдакцыя загадзя заключыла дагавор з маскоўскім адкрытым акцыянерным таварыствам "Полиграфический комплекс", у адпаведнасці з якой была аператыўна пералічана неабходная сума грошай на друкаванне чарговага нумара газеты.




Але калі вёрстка падыходзіла да завяршэння, з Масквы паступіла інфармацыя: на нас наехалі на вельмі высокім узроўні, не хочам згубіць друкарню, вяртаем грошы…

Некалькі месяцаў таму з "Народнай Воляй" скасавала дамову друкарня АТ "Прайм Прынт Масква".

Яшчэ ў жніўні мінулага года выдавецтва "Беларускі Дом Друку" спыніла тыражаванне газеты "Народная Воля" быццам з-за таго, што зламаўся станок.

У чарговы раз рэдакцыя звяртаецца да сваіх прыхільнікаў з просьбай падпісвацца на PDF-версію газеты "Народная Воля" на сайце belpressa.by і чытаць матэрыялы на партале https://www.nv-online.info.

**"Народная Воля +"**

## Беларускі каляндар памятных дат на май 2021 года

**1 мая**
- 140 гадоў таму, у 1881-м, нарадзіўся Янка Журба (сапр. Івашын), паэт. Памёр у 1964-м.

**5 мая**
- 190 гадоў таму, у 1831-м, нарадзіўся Уладзіслаў Борзабагаты, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Памёр у 1886-м.

**6 мая**
- 260 гадоў таму, у 1761-м, нарадзіўся Станіслаў Юндзіл, прыродазнавец. Памёр у 1847-м.
- 95 гадоў таму, у 1926-м, памёр Казімір Сваяк (сапр. Канстанцін Сіповіч), паэт.

**11 мая**
- 435 гадоў таму, у 1586-м, нарадзілася Соф'я Алелька-Радзівіл, асветніца. Памерла ў 1612-м.

**13 мая**
- 100 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Аркадзь Качан, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Памёр у 1982-м.

**15 мая**
- 85 гадоў таму, у 1936-м, нарадзіўся Барыс Сачанка, пісьменнік. Памёр у 1995-м.
- 50 гадоў таму, у 1971-м, у Лондане адкрылася Беларуская бібліятэка і музей імя Францыска Скарыны.

**16 мая**
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Васіль Вітка (сапр. Цімох Крысько), літаратар. Памёр у 1996-м.

**17 мая**
- 90 гадоў таму, у 1931-м, памёр мітрапаліт Мелхіседэк (Міхаіл Паеўскі), праваслаўны царкоўны дзеяч.

**18 мая**
- 115 гадоў таму, у 1906-м, у Пецярбаргу заснавана беларуская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша аконца"

**19 мая**
- 125 гадоў таму, у 1896-м, памёр Ян Козел, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.
- 15 гадоў таму, у 2006-м, памёр Уладзімір Плешчанка, грамадскі дзеяч.

**23 мая**
- 80 гадоў таму, у 1946-м, памёр Кастусь Езавітаў, дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння.

**27 мая**
- 30 гадоў таму, у 1991-м, У Мінску створана Міжнародная асацыяцыя беларусістаў.

**28 мая**
- 185 гадоў таму, у 1836-м, нарадзіўся Ян Карловіч, этнограф. Памёр у 1903-м.

**29 мая**
- 160 гадоў таму, у 1861-м, памёр Яўхім Лялевель, гісторык, ідэолаг паўстання 1830–1831 гг.

**30 мая**
- 195 гадоў таму, у 1826-м, нарадзіўся Зыгмунт Серакоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**31 мая**
- 25 гадоў таму, у 1996-м, у Іркуцку створана Таварыства беларускай культуры імя Івана Чэрскага.

**Беларусы ў свеце**
№ 4 (227), красавік 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27